Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная ГАЗЕТА

№ 14 (50) 5 - 11 красавіка 1996 года

Цана свабодная

ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ

Са светлым Уваскрэсеннем Хрыстовым віншуе чытачоў заўсёды ваша

Рэгіянальная ГАЗЕТА!

**Рэгіянальная ГАЗЕТА**

Падпіска з любога месяца ў любым паштовым аддзяленні Беларусі. Індэкс 63212. Цана на месяц— 4 тысячы рублёў

## Старшыня – і ў Красным старшыня

*МАЛАДЗЕЧАНСКІ Р-Н. Завяршыліся справаздачы і выбары ў калгасах Маладзечаншчыны. У ходзе гэтай складанай і напружанай кампаніі адбыліся змены ў старшынёўскім корпусе.*

Першым не ўтрымаўся на сваёй пасадзе старшыня калгаса "Светлы шлях" Аркадзь Асіповіч. Яго змяніў былы намеснік генеральнага дырэктара агрампрамкамбіната "Маладзечанскі" Яўген Карпач. Калгас імя Кірава ўвогуле ліквідаваны і далучаны да А А Т "Маладзечнасельгасхімія" у якасці вытворчага ўчастка, які ўзначаліў былы галоўны інжынер калгаса Сігізмунд Жарко. А калгасам "Краснае" сёння кіруе старшыня раённага Савета дэпутатаў, дэпутат Вярхоўнага Савета Аркадзь Луновіч.

*Андрэй БАЖКО.*

## Футбольная фіеста?

*МАЛАДЗЕЧАНСКІ Р-Н. Амаль год прайшоў пасля міні-футбольнага турніру ветэранаў у Беразінскім. Яго арганізатары вырашылі зрабіць спаборніцтвы традыцыйнымі.*

Сёлета турнір, які пройдзе у канцы чэрвеня, будзе камерцыйным. Дапамагаюць у гэтым прадпрымальніцкія стуктуры Маладзечна, Валожына, Радашковічаў. На некалькі дзён Беразінскім заваподае футбол. Мясцовае кабельнае тэлебачанне плануе кожны вечар паказваць згуляныя днём матчы, адрэкламуе фундатараў.

Футбалістам васьмі каманд, балельшчыкам прапануюць свае паслугі гандлёвыя арганізацыі, будуць арганізаваныя дыскатэкі, конкурсы, канцэрты.

Адзначу, турнір рэгіянальны, сярод заснавальнікаў і наша газета. Па прапанове галоўнага трэнера зборнай Беларусі Сяргея Бароўскага, дапускаюцца да ўдзелу футбалісты, якія мінімум два гады не выступалі за прафесійныя каманды (хацелі ўстанавіць цэнз у пяць год, але Бароўскі напаўжартам зазначыў: ФІФА не дазволіць).

Прызавы фонд турніру "Беразінскае-96" папярэдне вызначаецца прыкладна ў $1000, так што ўдзельнікі каманд-прызёраў маюць важкі матэрыяльны стымул. Калі ж прэтэндэнтаў на ўдзел у турніры будзе больш за восем, то пройдзе кваліфікацыйны турнір.

*Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.*

**З міліцэйскіх крыніц**

## Махляры па кабельнаму тэлебачанню

*Два жыхары Вільні, адзін з якіх некалі меў дачыненне да кабельнага тэлебачання, прамышлялі крымінальным бізнесам. Па фальшывых дакументах неіснуючай фірмы "Алінда" яны заключалі дагаворы на ўстаноўку кабельнага тэлебачання з жыхарамі гарадоў Расіі і Беларусі.*

Атабарыліся ў Маладзечне. Знялі кватэру. Паразвесілі аб'явы. Першы ўзнос, які склаў 300 тыс. руб., яны паспелі ўзяць прыблізна з 7-8 маладзечанцаў. Па сігналу аднаго з кліентаў махлярства выкрыта супрацоўнікамі міліцыі. Злачынцы арыштаваныя.

## Рэкецір злоўлены на гарачым учынку

*Кіраўнік аднаго з дзяржаўных прадпрыемстваў Маладзечна звярнуўся ў ГРАУС па дапамогу. Рэкецір настойліва патрабаваў у яго 1500 долараў ЗША. Сумесна з супрацоўнікамі следчага аддзела міліцыі 21 сакавіка пясляхова праведзена аперацыя па затрымцы злачынцы.*

118 долараў было пакладзена ва ўмоўнае месца ля гарадскога сметніка. Вымагальнік злоўлены пры выманні скрутку з грашыма. Арыштаваны чакае суда.

## У пошуку "Масквіч–412"

*Мікалай Клімовіч з Радашковічаў пацярпеў ад злачынцаў, якія перапілавалі металічныя петлі замка і такім чынам трапілі ў яго гараж. На аўтамабілі гаспадара яны вывезлі адтуль 7 мяхоў цукру, бензапілу "Дружба" і іншыя рэчы. Агульны кошт страты складае каля 17 мільёнаў рублёў.*

"Масквіч-412" сіняга колеру, дзяржнумар Г 6581 МБ знаходзіцца ў пошуку. Асоб, якія ведаюць месцазнаходжанне машыны, просім паведаміць у Маладзечанскі ГРАУС следчаму С. Сарокіну па тэл. 74839 ці 02.

*Святлана САРОКА.*

**Навіны рэгіёна**

## Імя героя– вядомае

*ВІЛЕЙКА. У сяле Іжа ледзь не згарэў 4-гадовы хлапчук, які застаўся сам-насам у кватэры двухпавярховага дома.*

Пажар пачаўся з-за няспраўнага тэлевізара. Каб не вадзіцель ЗіЛа, які праязджаў міма, невядома чым бы гэта скончылася. Шафёр спыніўся, не раздумваючы кінуўся ў кватэру, адкуль праз некаторы час вынес хлопчыка. Імя выратавальніка да нядаўняга часу было невядомым. Цяпер жа паведамляем: Анатоль Ардзяка, шафёр з Вілейскага РВА Сельгасхімія.

*Аддзел інфармацыі.*

## Крымінальны Івянец

*У гэтым адносна спакойным гарадскім пасёлку на Валожыншчыне адбылося сёлета другое забойства. На гэты раз вінаватыя не заезныя забойцы, а прымітыўныя чарка ды сварка.*

18 красавіка каля 18 гадзін у доме па вуліцы Надрэчнай збіраліся аматары застолля на хуткую руку. Неўзабаве нешта не падзялілі Вітольд М. з інвалідам першай групы Вікенціем Я. Сварка перайшла ў бойку. Першы івянчанін нанёс два ўдары сталовым нажом у грудзі другому. Ад ран 33-гадовы інвалід памёр на месцы.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*

## Нарадзіла, але не маці

*Знаходкі гэткія ў наш час не такія нечаканыя, як раней. Але менш жудаснымі яны ад гэтага не сталі.*

У апошні дзень сакавіка шафёр машыны, што збірае смецце па Вілейцы, знайшоў на гарадской звалцы пакет з нованароджаным дзіцём. Як высветлілася ў час паталагаанатамічнай экспертызы, яно нарадзілася жывым і здаровым.

Асобу злачынцы высвятляе следства.

*Аддзел інфармацыі.*

## Штрафам па інфекцыі

*МАЛАДЗЕЧНА. Па дадзеных мясцовай санітарнай службы за першыя месяцы года на Маладзечаншчыне ў некалькі разоў зніжана захворваемасць дэзінтэрыяй, зменшылася колькасць вострых кішэчных захворванняў, але пачасціліся выпадкі хворых на сальманелёз, крыніцай якога найчасцей з'яўлялася мяса, купленае на рынку.*

У сакавіку ў горадзе выяўлены хворы на дыфтэрыю– вучань 7-га класа СШ №2. Прыняты меры па папярэджванню распаўсюджвання захворвання.

Павялічылася захворваемасць на вірусны гепатыт В. Колькасць захварэўшых на грып за зіму перавысіла ўсе былыя паказчыкі. Нельга не пагадзіцца з галоўным урачом РЦГіЭ В. Белікам: мы пастаянна да нечага рыхтуемся і ніколі ні да чаго не падрыхтаваныя.

Асноўная ж прычына кішэчнай інфекцыі– у недастатковай санітарнай культуры. Калгасны рынак з'яўляецца адным з парушальнікаў санітарнага становішча. Нярэдка ў пагоні за больш таннымі прадуктамі мы не задумваемся над прычынай гэтай таннасці. Далёка не ўсе прадукты праходзяць праз мяса-кантрольную станцыю. Распрацоўваецца пастанова аб забароне заезду машын на рынак. Патрабуе рамонту павільён, бо немагчымае належнае прыбіранне сталоў, разрубачных калод.

Вулічныя крамкі, шапікі таксама далёка не заўсёды прытрымліваюцца санітарна-гігіенічных нормаў.

За 3 месяцы накладзена больш як 30 штрафаў на 500 тысяч рублёў. Але гэтыя меры не маюць належнага ўплыву.

*Святлана КЛІМОВІЧ.*

## Пікет у Ашмянах

*АШМЯНЫ. У час падпісання пагаднення паміж Беларуссю і Расіяй першы раз у гісторыі горада некаторыя яго жыхары паказалі, як яны ставяцца да палітычных падзей.*

У цэнтр горада некалькі дзесяткаў чалавек выйшлі з бела-чырвона-белымі сцягамі, плакатам "Жыве Беларусь!" Мірна праходзіла размова з праваахоўнымі органамі. Праз гадзіну пікет быў зняты.

*Валянціна ДРАЗДОВА.*

## Кіно ў растэрміноўку

*МАЛАДЗЕЧНА. Мясцовы кінатэатр "Радзіма" прапануе гледачам новы від паслуг: кінасеансы вы можаце наведаць без папярэдняй аплаты.*

Гледачы мусяць глядзець фільм у крэдыт. Грашовы разлік за паслугі трэба рабіць за тры дні да заканчэння бягучага месяца. Адміністрацыя кінатэатра асабліва раіць афармляць крэдытныя карткі для наведвання дзіцячых сеансаў.

*Аддзел інфармацыі.*

## Конкурс беспрацоўя

*МАЛАДЗЕЧНА. Для замяшчэння вакансіі галоўнага бухгалтара ДБП-197 вырашыла звярнуцца да паслуг рэгіянальнага цэнтра занятасці насельніцтва. З амаль паўсотні кандыдатаў пашчасціла Ганне Піліпенцы– акрамя іншага яна мела вопыт работы ў будаўніцтве.*

Такая ж сітуацыя і ў іншых спецыяльнасцях. Больш за ўсё стаіць на ўліку ў цэнтры прадаўцоў, павароў, электрамеханікаў. Ненамнога адсталі вадзіцелі, эканамісты і выхавальнікі. Найбольш жа папулярныя сярод маладзечанскіх беспрацоўных інжынеры– іх больш за 300 чалавек.

Перанавучанне праводзіцца на базе вучэбна-курсавога камбіната, аўтакамбіната АПК "Маладзечанскі". Пры ўлікова-планавым тэхнікуме створана школа прадпрымальніцтва. Многіх накіроўваюць і ў Мінск.

Для адных, праўда, перанавучанне задорага каштуе, а іншым наогул не пасуе (лепш не працаваць?). Атрымліваецца, што набыць новую спецыяльнасць імкнецца мала хто. А з перавучаных да 50% ізноў застаюцца беспрацоўнымі.

Па словах дырэктара цэнтра занятасці М. Дамашэвіч, штодзень да іх прыходзіць каля 40 чалавек– каб паставілі на ўлік. Прыйшлося стварыць папярэдні запіс на чаргу, але катастрафічна не хапае плошчаў. Магчымае, праўда, і наваселле, але на ўскраіне горада.

*Наталля РАБЧАНКА.*

## Рэспубліка "чиж" не мае мяжы

*АШМЯНЫ. Алена Багдановіч, арганізатар дзіцячага руху СШ №2, атрымала прыз глядацкіх сімпатый на абласным конкурсе прафесійнага майстэрства "Важаты года".*

Алена скончыла педвучылішча, многа займаецца самавыхаваннем: чытае, іграе на гітары, спявае. А калі ўлічваць, што настаўніца вельмі сімпатычная, можна ўявіць, як хінуцца да яе дзеці. Клапоцяцца маленькія "чыжыкі", каб жыццё ў іх рэспубліцы "ЧИЖ" адпавядала назве– было "чрезвычайно интересной жизнью".

*Вялянціна ДРАЗДОВА.*

У мінулым нумары "РГ" сярод тых, хто не падае справаздачы ў Маладзечанскі ГІВЦ, па віне рэдакцыі замест фірмы "Славяне" памылкова названа фірма "Славянін". Просім прабачэння за недарэчнасць.

## Аматары валейбола

*збіраюцца двойчы на тыдзень ў спартыўнай зале валожынскай гімназіі на трэніроўкі.*

Гэта людзі розных узростаў і прафесій,– у пераважнай большасці настаўнікі на чале з загадчыкам аддзела адукацыі райвыканкома, вяскоўцы. За тры месяцы правялі некалькі таварыскіх сустрэч з выездамі. Пабывалі ў Маладзечанскім раёне. Зборную пасёлка Беразінскае валожынцы перамаглі, а вось у пасёлку Чысць– прайгралі.

Але ўсё адно задавальненне ад гульні мелі: па-першае, таму, што прайгравалі ў кожнай партыі ўсяго па некалькі мячоў, а сярод сапернікаў былі некаторыя ігракі, якія выступалі на чэмпіянатах былога СССР; па-другое,– адпачынкам пасля таварыскай гульні. Сапернікаў па пляцоўцы потым аб'ядналі саўна і басейн.

*Наталля ШТЭЙНЕР.*



Факс (01773) 6-17-18,
Тэл. 6-17-19, 6-17-20, 6-17-21
Маладзечна, В.Гасцінец, 80а,
будынак Салона прыгажосці

# Самы юны выпівоха рэгёна— чацвёртакласнік з Валожына

**Ад Ашмян да Мядзела. П'янства лічбамі статыстыкі. Студзень-сакавік 1996 г.**

| *Райцэнтр і раён* | *Выцвярэзнік* | *Колькасць наведванняў выцвярэзніка* | | | *Прыцягнута да адміністр. адказнасці* | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | *Усяго* | *Жанчыны* | *Непаўналетн.* | *Усяго* | *Жанчын* | *Непаўнал.* |
| Смаргонь | Ёсць | 354 | 1 | 1 | Няма звестак | Няма звестак | Няма звестак |
| Астравец | Няма | — | — | — | 224 | 2 | 15 |
| Ашмяны | Ёсць | 168 | 2 | 0 | Няма звестак | Няма звестак | Няма звестак |
| Вілейка | Ёсць | 569 | 34 | 2 | Няма звестак | 68 | 55 |
| Маладзечна | Ёсць | 1082 | 91 | 7 | 1644 | Няма звестак | Няма звестак |
| Валожын | Няма | — | — | — | 401 | 1 | 20 |
| Мядзел | Няма | — | — | — | 642 | Няма звестак | 21 |

Кошт наведвання выцвярэзніка аднолькавы ва ўсім рэгёне— адна мінімальная зарплата. Памеры штрафаў вагаюцца ад 20 тыс. да 300 і больш тыс.

Некаторыя заўвагі.

***Астравец.*** 64 чалавекі нецвярозымі выяўлена на рабочых месцах. З іх 4— кіраўнікі. 23 чалавекі адпраўлены на лячэнне, у т.л. 2 жанчыны.

***Ашмяны.*** 3 выцвярэзніка "ціхіх" могуць адразу аддаць жонкам. Але ўсё адно трэба плаціць.

***Вілейка.*** Міліцыя пільна сочыць за ляснымі дарогамі. Калі расчышчаная— вядзе да бровара.

***Маладзечна.*** З наведвальнікаў выцвярэзніка 495 непрацуючых, 721 жыхар горада, 218— іншагародніх, 143 — жыхары раёна,13— замежныя грамадзяне.

***Валожын.*** На ўліку стаіць 625 алкаголікаў. Праз магазіны прададзена алкагольных напояў на 1,5 мільярда рублёў, што складае 10% ад усяго тавараабароту. Выпіта па бутэльцы гарэлкі на душу насельніцтва. Самы юны выпівоха— адзінаццацігадовы школьнік, вучань 4 класа.

Кошт самагону вагаецца ў рэгёне ад 15 тысяч да 30 тысяч рублёў за паўлітэрку ў залежнасці ад месца продажу і часу сутак.

**Аддзел інфармацыі.**

# Дай мне напіцца чыстай вадзіцы

***З такой просьбай стомленаму вандроўніку, аказваецца, небяспечна звяртацца да гаспадароў многіх студняў на Маладзечаншчыне. Вада ў іх забруджана нітратамі, прычым у многіх— у 2-3 разы звыш нормы.***

Чым багацейшы ў далёкім мінулым быў мясцовы калгас, чым больш уносілася ў глебу хімікатаў,— тым больш атруты ў пітной вадзе. Пры норме 45 мг/л у Насілаве, па дадзеных супрацоўнікаў РЦГіЭ, забруджанасць складае ад 80 да 130 мг/л, у Заскавічах— ад 68 да 117, у Самалях вышэйшая адзінка— 136. І спіс такіх вёсак можна працягваць: Палачаны, Краснае, Крыніца, Мароські, Хоўхлава...

Так што лепш будзе, калі наш вандроўнік пераадолее смагу і дацягне ногі да горада. Як сцвярджаюць работнікі РЦГіЭ, у Маладзечне вада адносна чыстая, асабліва ў тых мікрараёнах, якія забяспечвае другі водазабор. Там пабудавана станцыя абезжалезвання, і вада з яе выходзіць поўнасцю прыгоднай для піцця.

А вось на першым водазаборы такой станцыі няма. Будуецца яна вельмі марудна, хаця павінна была быць здадзена ў 1995 годзе. Таму ў РЦГіЭ ідуць скаргі ад жыхароў Галянова, цэнтра горада на тое, што з крана цячэ ржавая вада. Калі па норме жалеза ў ёй павінна ўтрымлівацца 0,3 мг/л, то лабараторныя даследаванні паказваюць, што яго колькасць дасягае іншы раз 1,2-1,8 мг/л. І ўсё ж, лішкі жалеза вялікай шкоды арганізму не прыносяць, хіба што страўнікавае расстройства могуць выклікаць.

***Анжаліка КРУПЯНЬКОВА.***

# Чатыры цукеркі і паўкілаграма мукі

## засталося ў хаце беспрацоўнай з Астравеччыны

***У нас ніколі не было буйных прадпрыемстваў,— гаворыць Людміла Бандарык, дырэктар цэнтра занятасці раёна,— а тыя, што ёсць, працуюць так, як мокрае гарыць.***

Ліквідаваны падсобныя цэхі гаспадаркі, у якіх жанчыны абшывалі расіян, працавалі на зборцы вырабаў, што ішлі таксама на Расію. Сувязі парушыліся. Некаторыя жылі тут, а на заробкі ездзілі ў Літву. Узнікла мяжа— пазбавіліся работы.

Прыехалі чарнобыльцы, з рэспублік былога Саюза. Як ні кажы, атрымалі рабочыя месцы, на якія цяпер з ахвотаю пайшлі б мясцовыя жыхары.

На Астравеччыне партрэт беспрацоўнага своеасаблівы— беспрацоўе нізкакваліфікаванае. З зарэгістраваных на ўліку толькі 3,6% маюць вышэйшую адукацыю, сярэднюю спецыяльную— 11,4 працэнта. У раёне адсутнічае вучэбная база, а калі б яна і была— няма попыту на спецыялістаў. Камбінат будматэрыялаў меў вакансіі і хуценька іх запоўніў. За мінулы год камерцыйныя структуры забяспечылі работай каля 50 чалавек. Невялікі паказчык, улічваючы, што на 1 сакавіка ў цэнтры занятасці было зарэгістравана 678 чалавек. За сакавік гэта лічба павялічылася на 74 беспрацоўныя. Больш паловы на ўліку— жанчыны. Многа без работы швей, вадзіцеляў. Нельга казаць, што работнікі цэнтра занятасці выступаюць толькі ў якасці статыстаў. Праводзячы мэтанакіраваны пошук работы для людзей, часцяком выкарыстоўваючы асабістыя кантакты, знаёмствы, Людміла Сямёнаўна і яе памочнікі працаўладкавалі за мінулы год 311 чалавек. Выкрэсліваюцца са спісаў адны, упісваюцца іншыя з запісамі ў працоўных кніжках— звольнены па прычыне ліквідацыі прадпрыемства, скарачэнню штатаў. Калі ж спыніцца гэты працэс?

***Васіль САВІЦКІ.***

# Ад урача да святара — крок у 25 гадоў

***—Рота, вольна! Радавы Уладыка— да камандзіра.***

***У страі шапталіся: "Святошу дадуць у костку". Але памыліліся. Камандзір—ваенурач, супакойваў санінструктара: "Не бядуй, што закрылася духоўная семінарыя. Марыў лячыць душу— лячы цела. Усё на карысць чалавеку. Рыхтуйся ў медыцынскі".***

Мікалай Уладыка з Вілейшчыны. Маці веруючая і дзяцей выхавала ў веры да бога. Таму, калі сын скончыў школу, адразу паехаў у Жыровіцы паступаць у Духоўную семінарыю. Напісаў пераказ на беларускай мове, праспяваў духоўныя песні, паказаў веданне малітваў і быў залічаны.

Жылі ў інтэрнаце, харчаваліся бясплатна, раніцай і ўвечары хадзілі на службу. Праз год настаў час ісці ў армію. Трапіў у Каўнас, у санчасць. У шасцідзесятым годзе ўлады семінарыю закрылі. І камандзір свайго падначаленага пераканаў стаць урачом.

Сем гадоў Уладыка адпрацаваў галоўным урачом участковай бальніцы вёскі Беніца Маладзечанскага раёна. Пасля перавёўся ў горад— у райпаліклініку. Дваццаць пяць гадоў агульны стаж у медыцыне. І вось на пенсіі здзейснілася мара яго жыцця. Святар Свята-Пакроўскай царквы, што ў Маладзечне, айцец Мікалай адзначае:

—Я ўдзячны богу за свой лёс, за магчымасць прыносіць людзям як мага больш карысці. Усё самастойнае жыццё лячыў плоць, а цяпер вось і душу.

Мітрапаліт Філарэт даў на гэта сваю згоду.

А яшчэ расказалі, як з далёкай вёскі прыехала ў горад бабуля да дочкі. Перш-наперш наведала царкву. Пастаяла, памалілася, прыгледзелася. І твар у яе выцягнуўся— убачыла ўрача. Шмат гадоў таму дачушцы было зусім кепска— выратаваў ён яе. А пабітая горам жанчына нават слова падзякі не сказала. Таму старая і падумала: паслаў ёй божанька вобраз урача, каб хоць перад смерцю з ім разлічылася. Упала на калені, і далоні цалаваць, крычаць у голас.

Каменціраваць гэта айцец Мікалай не стаў, толькі зазначыў— крычаць у царкве нельга. Вера— справа інтымная. Каб разабрацца ў сабе, патрэбная цішыня.

***Васіль САВІЦКІ.***

## Гасцёўня "РГ"

# Пасуньце крэсла

**Карэспандэнт Васіль САВІЦКІ запрасіў папіць чаю Пятра Дзёмава, мастака, апаратара біялакацыі.**

*—Пётр Андрэевіч, вы чараўніком нарадзіліся, ці прайшлі лікбез у якой-небудзь установе?*

—У Маскоўскім міжнародным цэнтры парапсіхалогіі скончыў курсы па развіццю здольнасцей чалавека ў галіне біяэнергетыкі. Займаюся інжынернай, геалагічнай і бытавой біялакацыяй.

*—Тэорыя цяжка ўспрымаецца на слых. Маеце канкрэтныя практычныя напрацоўкі?*

—Чулі аб геапатагенных зонах, выпраменьваннях з зямлі, небяспечных для здароўя чалавека? Дык вось, я раблю біяэнергетычны аналіз мясцовасці, даю парады, дзе лепш будаваць, ставіць ложак - г. д., каб пазбегнуць зон выпраменьвання.

*—А калі я ўжо трапіў у такую зону?*

—Па вас гэта не відаць. А калі сур'ёзна, трэба пазбягаць такіх месцаў. Аднойчы запрасілі мяне на завод, у цэх. Рабочае месца мантажніцы знаходзілася ў небяспечнай зоне, плошчай 80x80 сантыметраў. І гэта адразу было відаць. Ліналеўм пад крэслам абтрапаны, пад ім— трэшчыны ў бетоне.

*—Які прыбор ці прыладу выкарыстоўваеце ў рабоце?*

—Алюмініевы дрот.

*—У навукова-папулярных фільмах бачыў, як у пустыні шукаюць ваду. Нясе чалавек на выцягнутых руках ці то саломку, ці што. Уздрыгнула ў руках, нахілілася. З шалёнай радасцю ўсе за лапаты, і капаюць.*

—Мой знаёмы пабудаваў катэдж і тады пачаў думаць аб вадзе. Узяў трубу і ўвагнаў на сорак восем метраў у зямлю. А вады ні кроплі. Запрасіў дапамагчы. Знайшоў яму ваду. Толькі ў адным месцы яна была, і то на мяжы з суседнім ўчасткам.

*— А што калі геапатагенныя зоны знаходзяцца на шашы? Пракласці дарогу ў аб'езд?*

—Я разумею жарт. Але гэта сапраўды вельмі сур'ёзна. Калі вадзіцель трапляе ў такую зону, губляе пачуццё рэчаіснасці. На нейкі момант. І гэтага бывае дастаткова, каб націснуць звыш нормы на газ, ці крутнуць баранку ў бок.

*— Ці можаце знайсці скарб, закапаны ў зямлю?*

—І скарб, і ваду, і трубы. Гэта вельмі проста. Што тычыцца труб, магу празваніць участак і знайсці няспраўнасць. У раёне райбальніцы пракладвалі газапровод. Дзеля цікавасці праверыў швы. І знайшоў брак. Прыехала з Мінска праверка, рэнтгенустаноўкай прасвяціла швы і поўнасцю пацвердзіла мой дыягназ.

*—Вы багаты чалавек, калі маеце такія здольнасці?*

—Я мастак, працую ў дзіцячай школе. Як аператар біялакацыі дапамагаю знаёмым і супрацоўнічаю з фірмай "Фаварыт".

Доўга ішла размова за чаем. Перад адыходам Пётр Андрэевіч зрабіў біяэнергетычны аналіз рэдакцыйных памяшканняў. Даў дабро на работу і вызначыў найбольш спрыяльнае для творчасці месца. На якое я хуценька паставіў сваё крэсла.

## Лёсы людскія

# На Вялікдзень

***Няўдачнікам быў Шаркун. З юнацтва Фартуна адвярнулася ад яго. З-за дробнага крадзяжу трапіў у турму, і ўсё жыццё паляцела кулем. Не маючы асаблівых талентаў і не прыстасаваны да працы, ён некалькі гадоў абіваўся ля блатнякоў на падхваце. Пасля чарговай адседкі жыў тым, што перападзе ад зладзейскага катла.***

Кволы, скалечаны Шаркун займеў сваю мянушку за тое, што прышарквaў нагамі. Збіты ў бойках ды турмах, ён не цікавіўся ні жанчынамі, ні прыгодамі, анічым. Сам сябе не лічыў чалавекам. Не ведаў, навошта смуродзіць гэты свет. Але быццам бы нечага чакаў, пакорліва не супярэчыў нікому. Як тая жывёла, паціху соўгаўся на прывязі.

Набліжаўся Вялікдзень. У гэты вечар злодзеям пашчасціла. Сарвалі вялікі куш. Абакралі нейкага фірмача амаль на мільярд. Такіх грошай Шаркун ніколі не бачыў.

—Нікуды фірмач не сунецца. Ведае, што грошы "з душком",— быў задаволены верхавод зладзейскага прытулку.

—Шаркун, бяжы за гарэлкай. Ды лепшай нясі. Святкаваць будзем!

У разгары п'яной весялосці Шаркуна не турбавала ні хвароба, ні маркота. Піў разам з усімі без меры. Нават не заўважыў той момант, як знепрытомнеў. Апошняе, што засталося ў галаве ад рэальнасці, думка: з такімі грашыма і я б стаў суперменам...

Сніць Шаркун сябе з цыгарай, у смокінгу ля кадзілака. Вакол бізнесмены, артысты, прыгожыя жанчыны, якіх можна ўбачыць толькі на замежных часопісах. Усе п'юць шампанскае. Раскланьваюцца з ім. Шчаслівыя. Смяюцца. Спачатку ласкава, падлашчана. А потым усё мацней і мацней. І вось ужо рагочуць з пакрыўленымі тварамі, што д'яблы.

Тут у яркім святле з'яўляецца вялікі, што з паветра створаны, чалавек. Шаркун углядаецца ў расплывісты празрысты твар.

—Хто ты?

—Ці гэта шчасце, Шаркун?— чуецца адначасова з усіх бакоў ціхі, але магутны голас.— Нікчэмнае тваё жыццё. Нават уявіць сябе шчаслівым не можаш.

—А якое яно, шчасце?

—Шукай сам. Толькі памрэш, аніхто пра цябе добрага слова не скажа,— з гэтым і знік.

Быццам токам прашыбла. І Шаркун прачнуўся. Ля плоту на вуліцы. Холад праймаў усяго. Рукі адубелі. Сунуў іх у кішэню. Не лезуць. Што гэта? Усе кішэні забіты грашыма. Пяцідзесяцітысячнымі. А Шаркун не памятаў, што адбылося.

Доўга ён хадзіў па горадзе. Што ўтварыў? Не ведае. Што рабіць з грашыма? Не ведае.

Калатун патроху сыходзіў. На рынку перад Вялікднём буйны гандаль. Ля ўваходу натоўп— не праціснуцца.

—А што мне тут трэба?— разважае.— Нічога.

Толькі позірк утрымаўся на бязногім калеку, што сядзеў на каталцы з працягнутай рукой.

—Яшчэ і сляпы,— заўважыў Шаркун бялёсыя вочы старога. Інстынктыўна выцягнуў з кішэні неперазлічаны стос грошай і ўпершыню паклаў міласціну ў жабрацкую руку.—Дзякуй табе, добры чалавек,— нечакана пачуў ён. Сляпы калека ўдзячна глядзеў на Шаркуна шчырымі блакітнымі вачыма.

—Ізноў прывід,— вырашыў няўдачнік.— І што гэта сёння робіцца са мною? Гэтак і з глузду з'еду.— Таму перастаў здзіўляцца і спрабаваць асэнсоўваць рэчаіснасць. Вырашыў рабіць тое, што падказвала сэрца. Ад гэтага з'явілася невядомае пачуццё рашучасці.

Пайшоў у "Дом гандлю". Апрануўся ў самае лепшае адзенне, здзіўляючы прадаўцоў тым, што не цікавіўся коштам рэчаў.

—А цяпер на таксі паеду ў вёску да маці. Можа яшчэ жывая,— вырашыў імгненна. І ўзяў у падарунак каляровы тэлевізар.

Вёска— сем хат.

—Здаецца, гэта і ёсць мой родны кут,— спыніў таксіста Шаркун ля апошняй.

Дзверы адчыніла хударлявая скурчаная бабулька. Спачатку не разгледзела.

—Хто гэта?

А потым, як пазнала, ледзьве ўтрымалася на нагах.

—Васільку, сыночак мой родненькі. Няўжо гэта ты?— за апошнія некалькі гадоў Шаркун упершыню пачуў сваё імя. І слёзы падступілі да горла.

—Так, мама.

—Я чакала цябе. Дзякуй богу, дачакалася. Цяпер і памерці можна. Даражэнькі ты мой! Які ты прыгожы! Вялікім чалавекам стаў мой Васіль.

—Маці, я табе падарунак прывёз.

Шаркун забраў тэлевізар і разлічыўся з таксістам.

—Нічога мне не трэба, дзіцятка. Я ўбачыла цябе жывога— гэта найвялікае шчасце.—Старая без перапынку дзякавала богу і захаплялася сынам. Для Васіля не было ў жыцці больш прыемнай хвіліны. А шурпатыя рукі маці здаваліся самымі пяшчотнымі ў свеце.

Вечарэла. Цудоўны дзень падарыў Шаркуну прыемных уражанняў больш, чым меў ён на памяці. Яму не хацелася, каб дзень скончыўся.

—Я пайду, мама. Мы з табою яшчэ сустрэнемся.

—Куды? Цёмна на двары.

Але Шаркуна нічога ўжо не палохала. У яго было адзінае жаданне— ісці, ісці, усё адно куды. Наперад. На сэрцы было лёгка і хораша. Насустрач ішлі людзі. Не прыглядаўся да твараў мужчын. Ён усім жадаў дабра.

Не зразумеў нават Шаркун, што адбылося. Толькі падхапілі яго крылы шчасця. І ён паляцеў, скідваючы ўніз усё, што перашкаджала. Хораша яму так ляцець.

—А грошы?— успомніў.

Збоку анёлы ўсміхаюцца ласкава.

—Нашто яны табе?

—І на самой справе,— разважае расчулены Шаркун.— Не патрэбны. Вось яно, шчасце: чалавекам назвалі. Пачуў-такі я пра сябе добрыя словы.

***Святлана САРОКА***

# Праграма тэлебачання

## Понедельник, 8 апреля

### Белорусское телевидение

8.00 «Пространство любви». Д/ф. 9. 10 Студия «Колыбельная». Мультиклуб. 9.35 «Телебом в Могилеве» 10.35 Про шахматы и шахматистов. 11.05 Творческое объединение телефильм. «Маятник». 11.55 «Ревизор». Спектакль. 13.30 Концертный сезон. «Пейзаж с флейтой». 13.55 «Ревизор». Продолжение. 15. 20 «Зов весны». 16.05 «Крок». КВН. 17.05 Белорусский меридиан. 17.40 Премьер-кино. 18.30 Экомир-96. 19.05 «Крок». «Риск-версия». 19.40 «Это мы не проходили...» 19.55 Музыкальный салон Элеоноры Езерской. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.45 Спортивный телекурьер. 22. 10 Фильмотека. «Девчата». Х/ф. 23.50 Мультфильм для взрослых. 24.00 Новости.

### ОРТ

5.00 Телеутро. 8.00 Новости. 8. 15 «Секрет тропиканки». .9.05 Поле чудес. 10.05 Мультфильм. 10. 15 «Мир». «Сохрани себя». 11.00 Новости . 14. 20 «Джимми Суперчервяк». Мультсериал. 14.40 Марафон-15. 15.00 Звездный час. 15.35 «Элен и ребята». 16.05 Джэм. 16.30 Семь дней спорта. 17.00 Новости. 17. 20 «Секрет тропиканки». 18. 10 Час пик. 18.35 «Угадай мелодию». 19.00 «Если...» 19.45 «Спокойной ночи, малыши!» 20.00 Время. 20.40 Программа передач. 20.45 Премьера фантастического сериала «Виртуальная реальность». 21.35 «До и после...» 22. 25 Новости. 22.35 Х/ф «В стреляющей глуши».

### Канал «Россия»

6.35 «Медвежьи истории». Мультсериал. 7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00, 23.00 Вести. 7. 20 «В этот день...» 7.30 Время деловых людей. 8.00 Клип-антракт. 8. 10 Своя игра. 8.40 «Санта - Барбара». 9.35 Вас приглашает фирма. 9.45 Крестьянский вопрос. 10. 20 «Внутренний враг». Телеспектакль. 12.00 Депеша. 12.30 Ретро-шлягер. 14.50 Колесо истории. 15.45 Там-там новости. 16. 20 Россия в лицах. 16.35 Спасение 911. 17.30 Тележурнал «О.Т.» 17.40 L-клуб. 18. 25 Лидер-прогноз. 19.35 «Санта-Барбара». 20.30 «Жил-был Мейсон». 21.05 «Херувим и серафим». Х/ф 23. 15 Милицейская хроника. 23. 25 Лучшие игры НБА.

### Санкт-Петербург

12.00, 13.00, 14.00, 15.30, 18.30, 21.45 Информ ТВ. 12. 10 «Первая любовь». 13. 10 Скорая помощь. 13.40 Советы садоводам. 13.50 Телеслужба безопасности. 14. 10 «Кристи». Х/ф. 15.00 Ток-шоу «Наобум». Андрей Левшинов и Валентина Травинка. 15.40 Стиль жизни. 15.50 Поет Л.Агутин. 17.30 Сказка за сказкой. 17. 15 Овертайм. 17.30 Цикл «Уик-энд с детективом». 18. 10 Большой фестиваль. 18.50 Спортивные новости. 18.55 «Первая любовь». . 19.45 Телеслужба безопасности. 19.55 «Кристи». Х/ф 20.45 «Храм». 21. 15 «Мужская работа». Фильм 3-й. 22.00 Спорт, спорт, спорт... 22. 15 «Дом кино». 23.00 Хоккей. Россия - Швеция. 3-й период.

### НТВ

17.00 Мультсериал «Семейка Флинстоун». 1-я серия (США). 17.30 Футбольный клуб. 18.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Х/ф «Смертельная игра» (США). 21.00 «Сегодня». 21.35 «Иисус из Назарета». 1-я серия. 22.30 Времечко. 23.00 «Сегодня». 23. 20 Теннис в полночь.

## Вторник, 9 апреля

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Новости. 8. 15 Авто-парк. 8.30 Бездельник. 9.00 ТВ - школе. В.Короткевич и его творчество. 9.40 «Возвращение в Эдем». . 10.35 «Это мы не проходили...» Экономическая программа. 10.50 «Давид и Сэнди». Мультфильм 12.00 «Обуза». Х/ф. 12.30 «Инспектор Лосев». Х/ф. 1-я серия. 15.00 Новости. 15.15 «От печки...» Док.фильм. 15.35 «Цирк приехал». Фильм-концерт. 16. 25 ТВ - школе. Белорусская литература. 11-й класс. 16.55 «Все про все». 17. 20 Уроки Н.Новожиловой. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 Старинные романсы. 18.15 «Будьте здоровы». 18.25 Экономикст. 18.35 MTV. 18.50 Новости . 19.05 «Возвращение в Эдем». 20.05 Супергол. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 Х/ф «Русский счет». 23.25 Старинная музыка для гитары. 23.50 Мультфильм для взрослых. 24.00 Новости.

### ОРТ

5.00 Телеутро. 8.00 Новости. 8. 15 «Секрет тропиканки». 9.00 «Если...» 9.45 Смехопанорама. 10. 15 Мультфильм. 10.30 «Угадай мелодию». 11.00 Новости. 11. 10 «Мир». 11.50 «Михайло Ломоносов». Фильм 1-й. 14.20 «Джимми Суперчервяк». 14.40 Кварьете «Веселая квампания». 14.50 Мультитроллия. 15. 10 Волшебный мир, или Синема. 15.35 «Элен и ребята». 16.05 ...До шестнадцати и старше. 16.30 Семь дней спорта. 17.00 Новости. 17.20 «Секрет тропиканки». 18.05 Футбол. Кубок России. 1/4 финала. «Локомотив» (Москва)- «Текстильщик»(Камышин). 20.00 Время. 20.45 Х/ф «Сережа». 22.15 Пресс-клуб. 23.10 Новости. 23. 25 MTV. 0.15 «Дни Турбиных». 1-я серия.

### Канал «Россия»

6.35 «Медвежьи истории». Мультсериал (Австралия). 7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00, 22.55 Вести. 7. 20 «В этот день...» 7.30 Время деловых людей. 8.00 Милицейская хроника. 8.10 Устами младенца. 8.40 «Санта-Барбара». 9.35 Вас приглашает фирма. 9.45 Крестьянский вопрос. 12.00 Соотечественники. 12.30 Романсы П.И.Чайковского 15.10 Месяцеслов. 15.20 Волшебный чемодан. 15.30 Д/ф (Дания). 15.45 Там-там новости. 16.20 Россия в лицах. 16.45 «Бременские музыканты». Мультсериал. 17.15 Вас приглашает «Реформа». 17.25 Музыка всех поколений. 17.55 Проще простого. 18. 25 Чрезвычайный канал. 19.35 «Санта-Барбара». 20.30 Джентльмен-шоу. 21.05 Х/ф «Что-то светлое». 23. 10 Экран криминальных сообщений. 23. 20 XX век в кадре и за кадром. С.Эйзенштейн.

### Санкт-Петербург

12.00, 13.00, 14.00, 15.30, 18.30, 21.45 Информ ТВ. 12.10 «Первая любовь». . 13.10 Скорая помощь. 13.40 Советы садоводам. 13.50 Телеслужба безопасности. 14. 10 «Кристи». Х/ф 15.00 «За глаза». 15.25 Телеблиц. 15.40 Стиль жизни. 15.45 Александр Ретюнский - сын Ретюнского. 16.10 Детское ТВ. Ребятам о зверятах. 16.35 «Дикие лебеди». Рок-опера. 17.00 По всей России. 17.15 Большой фестиваль. 17.30 Показывает областная телекомпания. 18.50 Спортивные новости. 18.55 «Первая любовь». 19.45 Телеслужба безопасности. 19.55 «Кристи». Х/ф 20.45 Конкурс им. Н.А.Римского-Корсакова. 22.00 Спорт, спорт, спорт... 22. 15 Поет Анатолий Полотно. 23.05 Хоккей. Международный турнир вторых сборных. Финляндия -Швеция.

### НТВ

17.00 «Семейка Флинстоун». 2-я серия. 17.30 Женские истории. «Состоятельная женщина». 4-я серия 18.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Х/ф «Пропавшие без вести на поле боя» (США). 20.50 Доктор Угол. 21.00 «Сегодня». 21.35 «Иисус из Назарета». 2-я серия 22.30 Времечко. 23.00 «Сегодня». 23. 20 Большой ринг. 23.50 Меломания: «Джон Леннон».

## Среда, 10 апреля

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Новости. 8.15 «Дом у дороги». Фильм-балет. 9.00 ТВ - школе. Белорусская литература. 11-й класс. 9.30 «Возвращение в Эдем». 10. 25 Мультфильмы. 11.05 «Зорная ростань». 11.45 Видимо-невидимо. 12.45 «Инспектор Лосев». Х/ф. 2-я серия. 15.00 Новости. 15.15 «Виктория». Х/ф. 16.40 Как рождается музыка? 17.00 Кредо. 17.20 Гости в дом. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 «Страсти по Хармсу». Д/ф. 18. 25 Экономикст. 18.35 MTV. 18.50 Новости . 19.05 «Возвращение в Эдем». 20.00 «Кто это?» Телеигра. 20.05 К 55-летию начала Великой Отечественной войны. «Жаркое лето 41-го». 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.50 Хоккей. Чемпионат мира. Сборная Беларуси - сборная Швейцарии. 23.50 «Тема для органа». Д/ф. 24.00 Новости. 0. 15 Королевская охота.

### ОРТ

5.00 Телеутро. 8.00 Новости. 8.15 «Секрет тропиканки». 9.05 Футбол. Кубок России. 1/4 финала. «Локомотив»(Москва) - «Текстильщик» (Камышин). 9.55 В мире животных . 10.30 «Угадай мелодию». 11.00 Новости. 11.10 «Мир». 11.50 «Михайло Ломоносов». Фильм 2-й. 14. 20 «Джимми Суперчервяк». 14.40 Кактус и К. 14.50 До-ми-соль. 15. 10 Зов джунглей. 15.35 «Элен и ребята». 16.05 Тет-а-тет. 16.30 Семь дней спорта. 17.00 Новости. 17.20 «Секрет тропиканки». 18. 10 Час пик. 18.35 «Угадай мелодию». 19.00 Парижские тайны Э.Рязанова. Анни Жирардо. 19.45 «Спокойной ночи, малыши!». 20.00 Время. 20.45 А.Тарковский «Страсти по Андрею». Авторская версия фильма «Андрей Рублев».0. 15 Новости. 0.35 MTV. 1.00 «Дни Турбиных». 2-я серия.

### Канал «Россия»

6.35 «Медвежьи истории». Мультсериал. 7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00, 22.30 Вести. 7.20 «В этот день...» 7.30 Время деловых людей. 8.00 Экран криминальных сообщений. 8.10 Проще простого. 8.40 «Санта-Барбара». 9.35 Вас приглашает фирма. 9.45 Крестьянский вопрос. 10.20 «Россия молодая». Худ.фильм. 4-я серия. 11. 25 Клип-антракт. 11.30 21 кабинет. 12.00 Чрезвычайный канал. 12.30 Музыка всех поколений. 14.55 Империя игр. «Девушки на снегу». 15.45 Там-там новости. 16. 20 Россия в лицах. 16.45 «Бременские музыканты». Мультсериал. 17. 15 Тележурнал «Здоровье». 17. 25 Оставайтесь в шляпе. 17.55 Своя игра. 18. 25 «Как жить будем?» 19.35 «Санта-Барбара». 20.30 Сам себе режиссер. 21.05 «Устрицы из Лозанны». Криминальная комедия. 22.45 Милицейская хроника. 22.55 Звуковая дорожка.

### Санкт-Петербург

12.00, 13.00, 14.00, 15.30, 18.30, 21.45 Информ ТВ. 12.10 «Первая любовь». 13.10 Скорая помощь. 13.40 Советы садоводам. 13.50 Телеслужба безопасности. 14.10 «Кристи». Х/ф 15.00 Театральная провинция? 15.40 Стиль жизни. 16.00 Детское ТВ. «Лучше хором». 16.30 Баламуты. 17.15 Большой фестиваль. 17.30 Показывает областная телекомпания. 18.50 Спортивные новости. 18.55 «Первая любовь». 19.45 Телеслужба безопасности. 19.55 «Кристи». Х/ф 20.40 «Мужская работа». Фильм 4-й. 21. 10 Блеф-клуб. 22.00 Спорт, спорт, спорт... 22. 15 Парадоксы истории. Случайный «герой» кровавого воскресенья Г.А.Гапон. 22.45 «Закат». Х/ф.

### НТВ

17.00 Мультсериал «Семейка Флинстоун». 17.30 «Состоятельная женщина». 5-я серия. 18.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Х/ф «Секрет моего успеха» (США). 21.00 «Сегодня». 21.35 «Иисус из Назарета». 3-я серия. 22.30 Времечко. 23.00 «Сегодня». 23. 20 Такова спортивная жизнь. 23.50 Кафе Обломов.

## Четверг, 11 апреля

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Новости. 8.15 «Кинь в меня яблокам». Х/ф. 8.50 «Ансамбль танца Республики Беларусь» 9.30 «Возвращение в Эдем». . 10.25 Королевская охота. 11.05 «Заячье сердце». Х/ф. 12.20 «Путешествие в страну Чаянова». Д/ф. 13.20 «Инспектор Лосев». Х/ф. 15.00 Новости. 15.15 «Чиполлино». Мультфильмы. 16.00 ТВ - школе. Белорусская литература. 9-й класс. 16.30 Арсенал. Программа для армейцев. 17.00 Уроки Н.Новожиловой. 17.30 Ко дню узников концлагерей. 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 Сатирические стихи М.Вершинина. 18.15 Киноочерк. 18. 25 Экономикст. 18.35 MTV. 18.50 Новости. 19.05 «Возвращение в Эдем». 20.05 «Контрасты». Правовая программа. 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 «Инспектор криминальной полиции». Х/ф. 6-я серия. 23.45 «Крок». 0. 15 Новости.

### ОРТ

5.00 Телеутро. 8.00 Новости. 8. 15 «Секрет тропиканки». 9.05 Парижские тайны Э.Рязанова. Анни Жирардо. 9.45 Клуб путешественников. 10.30 «Два жадных медвежонка». Мультфильм. 10.40 Смак. 11.00 Новости. 11. 10 В эфире телерадиокомпания «Мир». 11.50 «Михайло Ломоносов». Фильм 2-й. 2-я серия. 14. 20 «Джимми Суперчервяк». 14.40 Лего-го! 15.05 Тин-Тоник. 15.35 «Элен и ребята». 16.00 Рок-урок. 16.30 Семь дней спорта. 17.00 Новости. 17.20 «Секрет тропиканки». 18.05 Футбол. Кубок России. 1/4 финала. «Динамо»(Москва) - «Анжи»(Махачкала). 20.00 Время. 20.45 Х/ф «Триумф духа». 22.55 «Обоз». 23.45 Новости. 0.05 MTV. 0.30 «Дни Турбиных». 3-я серия.

### Канал «Россия»

6.35 «Медвежьи истории». Мультсериал. 7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00, 22.45 Вести. 7.20 «В этот день...» 7.30 Время деловых людей. 8.00 Милицейская хроника. 8. 10 Сам себе режиссер. 8.40 «Санта-Барбара». 9.35 Вас приглашает фирма. 9.45 Репортажи с мест. 10. 20 «Россия молодая». Х/ф. 5-я серия. 11. 25 Мультфильм. 11.45 «Как жить будем?» 12.15 Звуковая дорожка. 15.05 Волшебный чемодан. 15.15 «Книжкина неделя». 15.45 Там-там новости. 16. 20 Россия в лицах. 16.45 «Бременские музыканты». Мультсериал 17.10 Клип-антракт. 17.15 Золотая визитка. «Весенняя ярмарка Рослегпрома». 17. 25 Лицо с обложки. 17.40 Мультфильм. 17.55 Проще простого. 18.25 «Удалось». Видеофильм. 19.35 «Санта-Барбара». 20.30 Маски-шоу. 21.05 Прогноз погоды. 21. 10 «Криминальный квартет». Х/ф. 23.00 Экран криминальных сообщений. 23. 10 Арт-обстрел. 23.40 В мире авто- и мотоспорта.

### Санкт-Петербург

12.00, 13.00, 14.00, 15.30, 18.30, 21.45 Информ ТВ. 12. 10 «Первая любовь». 13.10 Скорая помощь. 13.40 Советы садоводам. 13.50 Телеслужба безопасности. 14. 10 «Кристи». Х/ф. 14.55 Рандеву с Любой Успенской. 15.40 Стиль жизни. 15.50 Концерт. 16.10 Маленькие звездочки. 16.30 «Ржавые провода». 17.00 По всей России. 17. 15 Большой фестиваль. 17.30 Показывает областная телекомпания. 18.50 Спортивные новости. 18.55 «Первая любовь». 19.45 Телеслужба безопасности. 19.55 «Кристи». Х/ф (США). 20.45 Дела городские. 21.00 Теleблиц. 21.05 «Я - испытатель Иван Дыховичный». 22.00 Спорт, спорт, спорт... 22. 15 Личное дело. 22.45 Хоккей. Международный турнир вторых сборных. Россия -Финляндия. 3-й период. 23. 20 Чемпионат Италии по футболу. 2-й тайм.

### НТВ

17.00 Мультсериал «Семейка Флинстоун». 4-я серия. 17.30 Женские истории. «Состоятельная женщина». 6-я серия 18.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Мир кино. Дон Джонсон в фильме «Полиция Майами. Отдел нравов» (США). 20.40 «ТЭФИ-96»: кто есть кто. 20.50 Доктор Угол. 21.00 «Сегодня». 21.35 «Иисус из Назарета». 4-я серия 22.30 Времечко. 23.00 «Сегодня». Ночной выпуск. 23. 20 Кино не для всех. Х/ф «Сейшелы». (Польша).

## Пятница, 12 апреля

### Белорусское телевидение

7.30 Утренний коктейль. 7.50 Экономикст. 8.00 Новости. 8.15 «Еще не вечер...» 8.30 «Мелодий нежных чародей». Фильм-концерт. 9.00 ТВ - школе. Белорусская литература. «Новая зямля». 9.30 «Возвращение в Эдем». 10.25 «Миколка-паровоз». Х/ф. 11.55 Д/ф. 12.15 «Очарованный странник». Х/ф. 15.00 Новости. 15.15 Мультфильм. 15.25 «Дети Галактики». Д/ф. 16.30 Приложение к программе «Контрасты». 17.05 «На добрый лад». 17.20 «Крок». 17.50 Музыкальный антракт. 18.00 Мультфильмы. 18.25 Экономикст. 18.35 MTV. 18.50 Новости . 19.05 «Возвращение в Эдем». 20.05 «Международный курьер». 20.40 Колыбельная. 21.00 Панорама. 21.55 Музыкальный антракт. 22.05 «Кавказская пленница, или Новые приключения Шурика». Кинокомедия. 23.35 «12, или На ночь глядя». 24.00 Новости. 0.15 Хоккей. Чемпионат мира. Сборная Беларуси — сборная Голландии.

### ОРТ

5.00 Телеутро. 8.00 Новости. 8.15 «Секрет тропиканки». 9.10 Футбол. Кубок России. 1/4 финала. «Динамо»(Москва) - «Анжи»(Махачкала). 9.55 Играй, гармонь любимая! 10. 25 Пока все дома. 11.00 Новости. 11.10 «Мир». 11.50 «Михайло Ломоносов». Фильм 2-й. 3-я серия. 14. 20 «Джимми Суперчервяк». 14.40 «Вечнозеленая Рина». Телеспектакль для детей. 15.00 Фильм-сказка «Илья Муромец» 16.30 Семь дней спорта. 17.00 Новости. 17.20 «Секрет тропиканки». 18. 15 Человек и закон. 18.45 Поле чудес. 19.45 «Спокойной ночи, малыши!» 20.00 Время. 20.45 «Детективное агентство «Лунный свет». 21.45 Взгляд. 22.30 Новости. 22.40 Фильм Роберто Росселлини «Мессия». 1.15 Музыкальная программа.

### Канал «Россия»

6.35 «Медвежьи истории». Мультсериал. 7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00, 22.45 Вести. 7.20 «В этот день...» 7.30 Время деловых людей. 8.00 Экран криминальных сообщений. 8.10 Проще простого. 8.40 «Санта-Барбара». 9.35 Мультфильм. 9.45 «Церковь на берегу Тихвинки». 10.20 Торговый дом. «Ле Монти». 10.35 «Россия молодая». 6-я серия. 11.45 «Сын Земли». Ю.А.Гагарин. 12.15 Музыка на десерт. 12.30 «Удалось». Видеофильм. 15.05 Месяцеслов. 15.15 Волшебный чемодан. 15.25 Чья сторона? 15.45 Там-там новости. 16. 20 «Поехали». 16.35 «Полоса везения». Х/ф. 18. 15 Репортер. 18.25 Вертикаль. 19.35 «Санта-Барбара». 20.30 «От форте до пьяно». 21.05 «Шулеры». Х/ф. 23.05 Программа «А».

### Санкт-Петербург

12.00, 13.00, 14.00, 15.30, 18.30, 21.45 Информ ТВ. 12. 10 «Первая любовь». 13. 10 Скорая помощь. 13.40 Советы садоводам. 13.50 Телеслужба безопасности. 14. 10 «Кристи». Х/ф (США). 15.00 Личное дело. 15.40 Стиль жизни. 15.50 «Триумф в Мариинском. Майя Плисецкая». 16. 10 Детское ТВ. Там, где живет Паутиныч. 16.30 Семь пятниц на неделе. 16.50 Маленькие звездочки. 17. 15 Большой фестиваль. 17.30 Показывает Ленинградская областная телекомпания. 18.50 Спортивные новости. 18.55 «Первая любовь». 19.45 Телеслужба безопасности. 20.00 «Кристи». Х/ф (США). 20.50 Хоккей. Международный турнир вторых сборных. Россия -Чехия. 22.00 Спорт, спорт, спорт... 22. 15 «Грязный сезон». Х/ф (США).

### НТВ

17.00 Мультсериал «Семейка Флинстоун». 17.30 Футбольный клуб. 18.00 «Сегодня». 18.35 Герой дня. 19.00 Х/ф «Приходите завтра» 20.40 Доктор Угол. 21.00 «Сегодня». 21.35 «Иисус из Назарета». 5-я серия 22.30 Времечко. 23.00 «Сегодня». 23. 20 Х/ф «Та вилла рядом с кладбищем».

## Суббота, 13 апреля

### Белорусское телевидение

8.00 Новости. 8.15 Фильм-концерт. 8.50 «Пограничье». 9.10 «Крок». 9.40 Уроки Н.Новожиловой. 10.10 Здоровье. Тележурнал. 10.50 «Ералаш». Юмористический журнал. 1110 «Все про все». 11.35 Студия «Колыбельная». «Мультиклуб». 12.05 MTV. 12.50 «Мир природы и увлечений». 13.35 Композиторы Беларуси. 14. 20 Коллаж. 14.50 Телевизионный Дом кино. 15.30 Многоголосие. 16.00 «Олимпийский силуэт». 16. 20 Белорусский Дом. 17.00 «Зорная ростань». 17.45 Четвертое измерение. 18.30 Галерея. Отец Игорь (Коростылев). 19.05 Банка комиксов. 19.35 Видимо-невидимо. 20.40 Колыбельная. 21.00 Новости. 21.45 «Пять вечеров». Х/ф. 23.35 Фильм-концерт. 23.55 Праздничное богослужение на Воскресение Христово.

### ОРТ

6.45 Телеканал «Подъем!» 7.45 Слово пастыря. 8.00 Новости. 8.10 Телеканал «Подъем!» 9.00 Все звезды. 9.30 Не зевай! 10.00 Утренняя почта. 10.35 Смак. 10.50 «Эрмитаж». «Третья особая кладовая». 11. 25 Х/ф «Бирюк». 12.50 Театр + TV: Такая разная Максакова. 13.30 Кинематографъ. 14.00 Новости . 14.40 В мире животных. 15. 20 Америка с М.Таратутой. 15.50 Бомонд. 16. 10 Умники и умницы. 17.00 Новости. 17. 20 Телескоп. 18.00 Х/ф «Белый Бим Черное ухо». 1-я серия. 19.45 «Спокойной ночи, малыши!» 20.00 Время. 20.45 «Белый Бим Черное ухо» . 2-я серия. 22. 20 Пасха Христова. Трансляция богослужения из Богоявленского кафедрального собора.

### Канал «Россия»

7.00, 13.00, 19.00, 22.00, 23.50 Вести. 7.20 «В этот день...» 7.30 Всего понемногу. 8.20 «Вовкулакия, или Загадка доктора Никодима». 8.35 Золотой ключик. 8.50 Продленка. 9. 15 Мультфильм. 9.30 Устами младенца. 10.00 Вести в одиннадцать. 10.15 Доброе утро. 10.45 Парламентская неделя. 11.25 Клип-антракт. 11.30 Белая ворона. 12.00 «Твои возможности, человек». 12.30 «Поэт в России - больше, чем поэт». 13.20 Де факто. 13.35 «Бланш». Телефильм. 14.25 Пилигрим. 15.10 «Русские цари». Часть 2-я. 15.55 Футбол. Чемпионат России. ЦСКА - «Спартак» (Москва). 17.55 Клип-антракт. 18.00 Фильм-спектакль. 19. 25 Субботний вечер с Юрием Лужковым. 21.00 Мультфильм для взрослых. 21.05 Момент истины. 22.05, 0.05 «Воскресение». Х/ф. 1-я и 2-я серии.

### Санкт-Петербург

8.25 Актуально-насущно. 9.00 Стиль жизни. 9.05 Х/ф «Бег зайца по полям». 11.20 «Ничего, кроме...» 11.30 Ток-шоу «Наобум». Скульптор М.Аникушин. 12.00 «Сны о Гоголе». Телеспектакль. 13.30 Овертайм. 13.45 Еще одна Россия. 15.00 Театральная провинция? 15.30 У всех на виду. 15.40 Мы и банк. 16.20 Студия «Вообрази». 16.35 Цирк от Валентина. 17.05 «Парад парадов». Вячеслав Малежик. 18. 10 Большой фестиваль. 18.30, 21.00 Информ ТВ. 18.50 «Альфредо, Альфредо». Х/ф (Франция - Италия) 20.30 Рандеву со Светланой Медяник. 21. 20 «Симфония танца». Балет. 22.05 Храм. «Благодатный огонь». 22.35 Пасха. Торжественное богослужение.

### НТВ

17.00 «Дог-шоу. Я и моя собака». 17.30 Вернисаж Ильи Резника. 18.00 «Сегодня». 18.30 Программа Сергея Доренко «Характеры». 19.10 «Полиция Майами. Отдел нравов». 1-я серия (США). 20.00 Намедни. 20.45 Куклы. 21.00 «Сегодня». 21.35 Х/ф «Иисус Христос — суперзвезда». 23. 25 Третий глаз.

## Воскресенье, 14 апреля

### Белорусское телевидение

8.00 «Звездочка». Фильм-концерт. 8.40 «В светлый день Пасхи». Телеочерк. 9.05 «Конан». Мультсериал. 9.30 MTV. 10.00 «Победитель». Спортивная программа. 10. 20 Все нормально, мама! 10.50 Туробъектив. 11.10 «Все мы родом из детства». 12.40 Слово на Воскресение. 12.55 «Вялікодная сябрына». 13. 25 «Вершина мира». Телеигра. 13.45 Студия «Окно». «Белая королева». 14. 15 Театр в кресле. 14.55 Автопарк. 15. 10 «Вечные ценности». 16. 10 Родовод. «Пасха». 16.40 «Вялікодная сябрына». 17. 10 Мост. 17.35 «Дикий юг». Научно-популярный сериал. 18.05 «Гости в дом». 18. 15 «Вялікодная сябрына». Турнир виртуозов. 18.45 «Вершина мира». Продолжение телеигры. 19.05 Бездельник. 19.40 Колыбельная. 20.00 Резонанс. 20.50 Новости-ТВ. 21.05 Ток-шоу «Карамболь». 21.45 «Мать Иисуса». Х/ф. 23. 10 Музыкально-развлекательная программа. 23.40 Хоккей. Чемпионат мира. Сборная Беларуси — сборная Латвии.

### ОРТ

6.50 Тираж «Спортлото». 7.00 Телеканал «Подъем!» 8.00 Новости. 8.10 Телеканал «Подъем!» 9.05 «Непутевые заметки». 9. 25 Пока все дома. 10.00 Утренняя звезда. 10.50 Из первых рук. 11.00 Служу России! Армейский магазин. 11.30 Играй, гармонь любимая! 12.00 В городе N. 12.25 Очевидное-невероятное. 12.55 Смехопанорама. 13. 25 Премьера сериала «Мера за меру». 14.00 Новости. 14.20 «Фальстаф» Джузеппе Верди в цикле «Оперные истории». 15. 15 Как-то раз. 15.25 Клуб путешественников. 16.15 Мультфейерверк. 17.00 Новости. 17. 20 Пасхальная вечерня. 17.45 Футбольное обозрение. 18. 15 Песня - 96. 18.59 Премьера. «19.59». Информационно-аналитическая программа. 19.55 КВН-96. 21.50 «Детективное агентство «Лунный свет». 22.50 Новости. 23.00 Любовь с первого взгляда.

### Канал «Россия»

7.00 «В это день...» 7.10 Всего понемногу. 8.00 Не вырубить... 8.15 Газета «Иностранец». 8.30 Гостиница деда Мазая. 8.45 Первый дубль. 9.00 «Светлое Христово Воскресение». 9.30 Атыбаты... 10.00 Вести в одиннадцать. 10.15 Русское лото. 10.55 Клип-антракт. 11.00 «Волк - изгой Испании». Д/ф 11.55 Футбол без границ. 12.25 Книжная лавка. 12.55 Поздравление со светлым Христовым Воскресением. 13.00, 19.00, 23.35 Вести. 13.20 Короткая память. 13.35 «Бланш». Телефильм. 14. 25 Караоке по-русски. 14.45 Империя игр. «Девушки на воде». 15.35 «Хрустальный дворец». Балет. 16.05 Колесо истории. 17.00 «Чокнутый», «Аладдин». 17.55 Клип-антракт. 18.00 «Этот современный «Современник». 19. 25 Х/ф «Инкогнито из Петербурга». 21.05 Аншлаг и К. 22.00 «К-2». «Перпендикулярное кино». 22.50 У Ксюши. 23. 20 Рек-тайм. 23.50 Анализы недели.

### Санкт-Петербург

7.55 Это ваш день. 8.20 Целительное слово. 8.55 Стиль жизни. 9.00 «Альфредо, Альфредо». Х/ф. 10.35 Светлое Христово Воскресенье. 11.05 Россия. Выбор пути. 11.35 Х/ф «Уик-энд в Зюйдкоте». 13.35 Классика-5. «С миру по нотке», Б.Хендрикс в Петербурге. 14.30 Золотой ключ. 14.55 Бросайка. 15.40 «Воробей на льду». Х/ф. 16.40 Анонс телепрограмм. 16.55 Чемпионат Италии по футболу. 19.00, 21.00 Информ ТВ. 19.20 «Простофиля». Х/ф. 21.25 Ноу смокинг. 22.10 «Корпус торпедо». Х/ф.

### НТВ

17.00 «Полицейский Кэттс и его собака». 17.30 Телеигра «Сто к одному». 18.00 «Сегодня». 18.30 Музыкальная программа «Овация». 19.00 «Полиция Майами. Отдел нравов». 2-я серия . 20.00 Итоги. 21.10 Х/ф «Человек дождя». 23.35 Лучшие шоу и варьете мира. «Лидо».

